**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

28 (588) 14 ліпеня 2011 года

Кошт свабодны.



Абвесткі з хатняга тэлефона ў «Вольнае Глыбокае». Дзённа й ночна на нумар 166

Докшыцкі раён

# Такое не павінна паўтарыцца

■ Станіслаў Раманчук

**Чым далей адыходзяць у гісторыю трагічныя падзеі мінулай вайны, тым важнейшая памяць аб тых пакутах і ахвярах, якія перанеслі нашы суайчыннікі.**

Паўсюдна прайшлі ўрачыста-жалобныя мерапрыемствы з нагоды 70-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны 1941-1945 гадоў. У Докшыцкім раёне мітынг-рэквіем адбыўся ў абноўленым мемарыяльным комплексе “Шунеўка”. На гэтым месцы паблізу ажыўленай аўтадарогі на Бягомль у часы нацысцкай навалы была поўнасцю спалена аднайменная невялікая вёска з 70 яе жыхарамі, пераважна жанчынамі, дзецьмі і старымі. З абласнога бюджэту пайшло больш за 700 млн. рублёў, каб святое месца выглядала годна. У новым памяшканні цяпер размясціўся філіял мясцовага музея народнай славы. Па ўсёй тэрыторыі, дзе сем дзесяцігоддзяў назад разгортваліся жудасныя падзеі, па-новаму выклалі фундаменты спаленых дамоў, навялі парадак, палажылі новы асфальт, абнавілі помнік. Дарэчы, Шунеўка – толькі адзін з апаленых вайной населеных пунктаў, паколькі акупанты знішчылі і разбурылі амаль 10 тысяч беларускіх вёсак і пасёлкаў, сотні з іх спалілі разам з жыхарамі. На нашай зямлі, гаварылася на мітынгу, было створана 260 канцэнтрацыйных лагераў, 110 гета, людзей знішчалі масава падчас 140 карных аперацый. У памяць ахвяр той самай страшнай вайны прагучаў аўтаматны салют.

Мёрскі раён

# Рэўнасць давяла да кратаў

■ Чэслаў Якубовіч

**Колькі ўжо ў гісторыі было выпадкаў, калі прычынай розных жыццёвых драм станавілася жанчына.**

Вось і ў Мёрскім раёне адна з такіх вясковых дам міжволі спрычынілася да крымінальнай справы, узбуджанай супраць свайго 67-гадовага суседа. Яна жыла сумесна з 55-гадовым мясцовым мужчынам, які да пары да часу падтрымліваў сяброўскія прыязныя адносіны з гэтым пенсіянерам. Вяскоўцы любілі каратаць час разам у кампаніі, размаўляць пад чарку за жыццё. Стары неяк запрасіў пару да сябе, а калі маладзейшы пайшоў на працу, застаўся з жанчынай і быў ачараваны ее формамі цела. Неўзабаве ўжо ў доме сужыцеляў прадоўжылася падобнае застолле, пасля якога пенсіянеру захацелася блізасці з гэтай дамай. Зразумела, яе мужчына ўспрыняў такую такую прапанову адмоўна, а калі сусед стаў біцца, маладзейшы даў яму адпор і выгнаў з хаты. Пакрыўджаны стары раўнівец рашыў па-свойму правучыць свайго крыўдзіцеля. Ён вярнуўся з паляўнічай стрэльбай і спачатку стрэліў у паветра, потым у суседа і параніў яго. Па гэтым інцыдэнце была ўзбуджана крымінальная справа, вынікам якой стаў даволі суровы прыгавор суда. Наступныя 6 гадоў у старасці пенсіянер правядзе за кратамі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Там яму будзе прадпісаны і рэжым прымусовага лячэння ад алкагалізму. Абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу і пакінуў рашэнне суда 1-й інстанцыі ў законнай сіле.

Пастаўскі раён

# У вышук аб’яўлены ... бацька

■ Кастусь Александровіч

**Вось ужо другое дзесяцігоддзе спрабуе краіна вырашыць праблему сацыяльнага сіроцтва, пачала прымусова ўздзейнічаць на гора-бацькоў, але да нармалізацыі абстаноўкі яшчэ далёка.**

Не стаў выключэннем і Пастаўскі раён, дзе ў судзе разгледзелі 399 спраў па спагнанні расходаў на ўтрыманне дзяцей з праблемных сем’яў. Да такой меры ўздзеяння прыйшлося прыбегнуць у адносінах да 94 гора-мам і тат. Характэрна, што з іх толькі двое ўсвядомілі, да чаго яны апусціліся, і пагадзіліся плаціць грошы дзяржаве добраахвотна. З горам папалам удалося неяк уладкаваць на працу 62 асобы і з іх сціплых даходаў спагнаць 869 млн. рублёў. Тым часам узніклі дадатковыя нюансы, паколькі адзін з татаў недзе прапаў і яго прыйшлося аб’явіць у вышук. Шасцёра апусціўшыхся мам у гэты перыяд нарадзілі зноў і пайшлі ў адпачынак па доглядзе за дзецьмі, калі працаваць не трэба. Асноўная ж маса абавязаных асоб ходзіць на працу ледзь ці не ў суправаджэнні ўчастковага, спазняецца, прагульвае і на рабоце адбывае дзень да вечара. Па гэтай прычыне 17 гора-бацькоў адправіліся ў калоніі альбо ў ЛПП, каб пазбавіцца ад алкагольнай залежнасці. Сёлета ўзніклі дадатковыя праблемы, паколькі дзяржава павялічыла штомесячныя расходы на ўтрыманне дзяцей, а заробкі ў такіх работнікаў па прымусе мізэрныя і спагнаць суму ў поўнай меры не атрымліваецца.



# Лічба нумара

**17%** - столькі прадпрыемстваў у Беларусі, па дадзеных статыстыкі, сёлета толькі ў прамысловасці заставаліся стратнымі па выніках дзейнасці ў студзені-маі. Гэта тэндэнцыя стала адной з праяў эканамічнага крызісу, адчувальнага пагаршэння сітуацыі ў краіне на фоне вострага недахопу валюты. Парадокс, што ў айчыннай індустрыі ўзрастаюць праблемы і дысбалансы пры адначасовым росце ВУП і прамысловай вытворчасці за гэты перыяд на 12,5 %.

У прыватнасці, аб гэтым сведчыць тое, што рэнтабельнасць беларускіх заводаў і фабрык нізкая, усяго толькі 7,7 %, растуць іх даўгі. Большасць вытворцаў вырабляюць сваю прадукцыю ў доўг і прадаюць звычайна не толькі без папярэдняй аплаты заказаў, але і ўвогуле потым доўга не могуць атрымаць за яе грошы. Як вынік, з пратэрмінаванай крэдыторскай запазычанасцю існуюць 70 % прамысловых прадпрыемстваў, а ў 83 % вытворцаў – істотная дэбіторская запазычанасці. Слава Богу, што ў краіны яшчэ не поўнасцю праедзены золатавалютныя рэзервы ( у сховішчах каля 4 млрд. $ на неадкладныя патрэбы), інакш і да фінансавага банкруцтва зусім было б не далёка.

Беларусь апынулася ў няпростым становішчы таму, што адмоўнае сальда знешняга гандлю некалькі гадоў расло і зараз наблізілася да 16 % ВУП.

Жыць ў доўг прызвычаілася апошнім часам і насельніцтва, яму хацелася хутчэй абнавіць свае кватэры і гаражы. Людзі ахвотна бралі крэдыты ў банках, а цяпер(асабліва тыя, хто набралі валютныя крэдыты амаль на паўмільярда долараў) “пагарэлі”, ім не пазайздросціш. З іншага боку, акрамя дзяржавы (знешні доўг якой амаль 10 млрд. долараў), яшчэ большую запазычанасць маюць і нашы прадпрыемствы.

Праблемную сітуацыю з дэфіцытам знешнегандлёвага балансу і недахопам валюты маглі б неяк пакрыць замежныя інвестыцыі. Аднак іх прыток сёлета невялікі, паступіла толькі 800 млн. долараў ад партнёраў па СНД з Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС. Але нізкая эфектыўнасць і канкурэнтаздольнасць айчыннай вытворчасці ў бліжэйшыя гады не дазваляюць нам разлічваць на станоўчы знешнегандлёвы баланс. Адпаведна, няма і падстаў, што сітуацыя можа палепшыцца на фоне таго, што кіраўніцтва Беларусі не бачыць у сённяшніх рэаліях нічога страшнага і не выказвае гатоўнасць праводзіць наспеўшыя рэформы.

Аднак нашы бліжэйшыя суседзі і саюзнікі расіяне перасталі датаваць афіцыйны Мінск і неўзабаве, як снежны ком, рухнулі ўсе нашы сацыяльныя заваёвы тыпу 500-доларавай зарплаты. Асноўная маса старэйшага насельніцтва, пенсіянеры , малааплатныя катэгорыі нізкакваліфікаваных работнікаў, вяскоўцы і шэраг іншых беларусаў адразу патрапілі ў разрад малазабяспечаных беднякоў. Іх жыццёвы ўзровень апынуўся дзесьці на ўзроўні пачатку XXI стагоддзя. Пра заробкі на ўзроўні 700-1000 долараў ужо ніхто афіцыйна не абмаўляецца.

Падобна на тое, што нам трэба прывыкаць да чарговых жыццёвых цяжкасцей, якія доўжыцца будуць доўга. Пры аслабленай пакупніцкай здольнасці людзей праблемы вытворцаў толькі павялічацца. Пра эканамічны рост трэба забыцца, інакш склады зноў будуць забіты пад завязку. Узровень дабрабыту нацыі знізіўся, цяперашніх заробкаў хапае толькі на харчаванне, а людзі стануць працаваць у асноўным “на ўнітаз”. Неўзабаве спадзе ажыятажны попыт на легкавушкі ды і на многае другое. Праўда, перад гэтым за 5 месяцаў года рознічны тавараабарот у краіне вырас амаль на 23 %, а рэкорд продажу ўстанавіў цукар (рост на 71,2 %).

Шчыра кажучы, падстаў для аптымізму няма, і такое адчуванне, што ў нас няма дакладнага плану выхаду з эканамічнага крызісу. Каб яшчэ ў сакавіку правялі плаўную, на 20-25 %, дэвальвацыю рубля, ён бы не абваліўся ў маі адразу на 56 %. Аб заяўленай яшчэ нядаўна лібералізацыі трэба забыцца, патрэбных рухаў у бок рыначнай эканомікі не назіраецца, а таму і пераход на больш нізкі ўзровень жыцця ўжо адбыўся, і ён будзе працяглым. Беларускі эканамічны “цуд” працягваецца, а пакуль нейкі выхад з балота, куды мы трапілі, паабяцалі народу знайсці ў жніўні, а магчыма, і ў канцы года.

## Надвор’е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 14.07.11 | | | | пятн. 15.07.11 | | | | сб. 16.07.11 | | | | нядз. 17.07.11 | | | | пн.18.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +15 | +21 | +27 | +25 | +21 | +23 | +28 | +25 | +21 | +21 | +25 | +21 | +16 | +19 | +23 | +22 | +14 | +21 | +27 |
| Ціск, мм | 748 | 748 | 747 | 745 | 745 | 745 | 745 | 744 | 742 | 742 | 742 | 741 | 741 | 741 | 741 | 741 | 742 | 743 | 742 |
| Вільготнасць, % | 82 | 74 | 53 | 66 | 85 | 87 | 61 | 84 | 85 | 87 | 58 | 84 | 99 | 83 | 54 | 71 | 93 | 69 | 49 |
| Вецер м/сек | С-В 2 | В 3 | Ю 4 | Ю-В 6 | Ю 4 | З 3 | Ю-З 3 | Ю-В 2 | Ю 4 | З 3 | З 3 | С-З 2 | Ю-З 1 | С-З 3 | З 3 | Ю-З 3 | Ю 2 | Ю 3 | Ю 5 |

## Дзень за днём

**З-за высокай інфляцыі ў Беларусі ў чарговы раз паднялі стаўку рэфінансавання да 18 % гадавых. У краіне на 2 месяцы адклалі ўвядзенне свабодных адпускных цэн на алкаголь. Калі сітуацыя не стабілізуецца, то эксперты не выключаюць затрымкі выплат зарплат, асабліва на буйных заводах. Нават прафсаюзы афіцыйна заявілі, што людзі гатовыя трываць цяперашні абвал толькі да жніўня. Аднак пакуль кіраўніцтва краіны адмаўляецца ад рэформ і структурнай перабудовы эканомікі і не збіраецца адмаўляцца ад выбранай мадэлі. Для аднаўлення ранейшых даходаў рэзка збяднелых беларусаў цяпер спатрэбяцца некалькі гадоў.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Спецслужбы краіны ўстанавілі ўзнагароду ў памеры 25 млн. USD за інфармацыю аб месцазнаходжанні новага главы тэрарыстычнай сеткі "Аль-Каіда" Аймана аль-Завахіры.

**Расія.** Віцэ-прэм'ер РФ Аляксей Кудрын назваў "спрэчным" рашэнне беларускіх калег па абмежаванні росту цэн, бо гэта заўсёды прыводзіць да таварнага дэфіцыту.

**Данія.** Рабочая група ПА АБСЕ ўпершыню ўзняла пытанне экалагічнай бяспекі Еўропы і сур'ёзнай пагрозы для сталіцы Літвы будаўніцтва паблізу яе Беларуссю АЭС.

**Чэхія.** Краіна, як заявіў чэшскі міністр абароны Аляксандр Вондра, выравышыла канчаткова адмовіцца ад удзелу ў амерыканскай сістэме супрацьракетнай абароны і закрыць яе базу.

**Ісландыя.** Перад спецыяльным судом прадстаў 60-гадовы экс-прэм'ер Гейр Хордэ, яму за давядзенне краіны ў 2008 годзе да фінансавага калапсу пагражае да 2 гадоў турмы.

**ЗША.** Пасля адключэння інтэрнэту ў Сірыі ААН прыняла дакумент аб тым, што права на доступ у інтэрнэт з'яўляецца адным з неад'емных правоў чалавека ва ўсім свеце.

**Расія.** Прэзідэнт РФ Д. Мядзведзеў заявіў, што не лічыць распад СССР найвялікшай геапалітычнай катастрофай XX стагоддзя, бо яшчэ больш бедаў народу прынеслі войны.

**Францыя.** Еўрапейскі гігант, кампанія Airbus, напярэдадні чарговага авіясалона «Ле Буржэ» прадставіла канцэпт "шкляного" самалёта, які могуць зрабіць да 2050 года.

**Украіна.** Канстытуцыйны суд краіны адхіліў закон аб чырвоных сцягах у якасці аднаго з дзяржаўных сімвалаў: з-за іх 9 мая ў шэрагу рэгіёнаў узніклі масавыя беспарадкі.

**Японія.** За межамі абавязковай 20-кіламетровай зоны адсялення ў зямлі ў шэрагу раёнаў краіны знайшлі радыёактыўны стронцый, яго канцэнтрацыя ў 10 разоў перавысіла норму.

**ЗША.** Новая праграма супрацоўніцтва з Беларуссю можа быць прынята на 3 гады, аднак прадастаўленне крэдыту магчыма толькі ў абмен на структурныя рэформы эканомікі.

**Вануату.** Новы ўрад астраўной дзяржавы адмяніў рашэнне папярэдняга кіраўніцтва аб прызнанні незалежнасці Абхазіі, ён лічыць яе аўтаномію неад'емнай часткай Грузіі.

**Кітай.** Ад вельмі моцных дажджоў і паводкі пацярпелі 3 мільёны кітайцаў на тэрыторыі правінцыі Хубэй, дзе ў зоне бедства апынуўся 31 павет і горад, некалькі чалавек загінулі.

**Кыргызстан.** Парламент краіны запатрабаваў ад Генпракуратуры, МУС і спецслужбаў прыняць меры для затрымання і экстрадыцыі з Беларусі экс-прэзідэнта К. Бакіева.

**Расія.** Эксперты газеты "Маскоўскі камсамолец" заявілі, што палкоўніка Ю. Буданава застрэлілі 6 стрэламі так, як вучаць у ГРУ, чачэнцы на такое не здольныя ў прынцыпе.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пакуль дзеянняў ураду па выхаду з крызісу, як заявіў прафесар М. Кавалёў, не было бачна, дэвальвіраваць нацвалюту трэба было яшчэ ў пачатку вясны на 10-20 %.

**Салігорск.** Буйны расійскі вытворца калійных угнаенняў ААТ "Уралкалій" адмовіўся ад пакупкі дзяржпакета акцый "Беларуськалію", ён толькі думае аб мэтазгоднасці здзелкі.

**Брэст.** Крызіс крызісам, а кіраўнік вобласці Канстанцін Сумар перасеў з джыпа Toyota Land Cruser на новы службовы аўтамабіль Audi A8L коштам каля 115 тысяч долараў.

**Смаргонь.** Пачалася рэканструкцыя сядзібы Агінскіх у іх родавым маёнтку Залессе з аднаўленнем аднаго крыла палаца, пабудовай газавай кацельні да канца 2012 года.

**Пружаны.** Амаль 20 млн. USD уласных сродкаў уклаў расійскі бізнесмен, ураджэнец вёскі Клятное Мікалай Бурнос і адкрыў на радзіме вялікі туркомплекс, рэстаран, ФАК.

**Мінск.** Глава МЗС РБ С. Мартынаў на сустрэчы са сваім расійскім калегам С. Лаўровым заявіў пасля перагавораў, што бязвізавы рэжым з Еўрасаюзам Беларусі не патрэбен.

**Барысаў.** Як засведчыў гендырэктар завода медпрэпаратаў Аляксандр Фандо, прадаваць прадукцыю на ўнутраным рынку нявыгадна, зараз 60 % яе прадаецца за граніцу.

**Жлобін.** Жыхарка райцэнтра разам з 8-гадовым сынам атруціліся ў ліку 60 чалавек падчас адпачынку ў Грэцыі з-за няякаснай пітной вады, аднак шпіталізацыя не спатрэбілася.

**Мінск.** Вядомы хакейны трэнер Міхаіл Захараў не даў праверыць сябе на алкаголь, калі разбіў сваю дарагую іншамарку "Бентлі" коштам амаль 190 тысяч USD.

**Кобрын.** У райцэнтры на плошчы падчас акцыі "народныя гулянні" маладыя бацька з сынам каталі "лысае" кола ў прысутнасці 28 чалавек, міліцыя нікога не затрымала.

**Брэст.** З-за трэшчыны ў сценцы печы электралямпавага завода за 2 гадзіны выліліся ў металічны ўлоўнікі 26 тон расплаўленага шкла, ніхто з людзей не пацярпеў.

**Мінск.** На працягу паўмесяца ў сталіцы назіралася ў харчовых магазінах істотнае скарачэнне асартыменту малочных прадуктаў, складана было купіць нават кефір.

**Дрыбін.** У вёсцы Пудаўня вечарам не справіўся з кіраваннем іншамаркі 31-гадовы кіроўца, яго "Мерседэс" зляцеў з дарогі ў сажалку, у выніку ДТЗ загінулі 4 чалавекі.

**Мядзель.** Аквалангісты дайвінг-клуба "Марскі пегас" падчас экспедыцыі на дне возера Нарач знайшлі затанулы ў 1916 годзе бронекацер часоў Першай сусветнай вайны.

**Брэст.** На могілках "Паўночныя" адкрылі памятны знак ахвярам Халакосту, летась восенню тут пахавалі астанкі 350 растраляных фашыстамі яўрэяў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Толькі летась, як адзначалася на сесіі аблсавета дэпутатаў, 128 разоў вадаёмы вобласці забруджваліся нечыстотамі, вельмі забруджана рака Віцьба ў абласных цэнтры.

**Лёзна.** Па праграме "Малая энергетыка" ля 4 вёсак раёна абралі пляцоўку для стварэння парку ветраных установак коштам 170 млрд. рублёў, што замесціць 27,8 млн. куб. газу.

**Наваполацк.** З восені на лета перанеслі правядзенне Дня горада, які адсвяткаваў сваё 53-годдзе шэрагам буйных урачыстасцей на працягу тыдня, правеў інвестыцыйны форум.

**Віцебск.** Магазіны гарадской сеткі "Еўраопт" сталі самымі папулярнымі ў абласным цэнтры, бо цэны тут у сярэднім на 18,5 % ніжэйшыя, чым у крамах-канкурэнтах.

**Глыбокае.** На прайшоўшым у райцэнтры І-м міжнародным інвестыцыйным форуме раён падпісаў дагавор аб супрацоўніцтве і развіцці сувязей з Лудзенскім краем (Латвія).

**Гарадок.** Жыхароў вёскі Пятрова і двух суседніх абурыла, што ў іх болей не будзе ФАПа, за медыцынскай дапамогай ім трэба звяртацца за 6 км у Бычыхінскую амбулаторыю.

**Талачын.** На выставе "Белагра-2011" натуральныя віны кансервавага завода з агрэсту, малін, парэчак па тэхналогіі хатняга віна без дадатку спірту атрымалі высокую адзнаку.

**Лепель.** Паблізу райцэнтра ў прыватным туркомплексе "Гасцінны двор" на 80 месц з'явіліся новыя скульптуры звяроў, неўзабаве здадуць яшчэ адзін міні-гатэль і басейн.

**Дуброўна.** Асуджана да 2 гадоў пазбаўлення волі ўмоўна і штрафам у памеры 200 БВ 50-гадовая касірка аднаго з банкаў райцэнтра, якая завалодала грашыма сваіх кліентак.

**Орша.** Экалагічная катастрофа – гібель рыбы – зафіксавана на рацэ Крапіўенка, куды трапілі гноевыя стокі з-за прарыву абвалоўкі свінагадоўчага комплекса "Задняпроўскі".

**Полацк.** Міліцыя затрымала жыхара вёскі Астроўшчына, які ў стане ап'янення падчас спрэчкі так моцна збіў сваю 26-гадовую жонку, што яна загінула ад разрываў печані.

**Ушачы.** Пасля адмены правядзення дыскатэк да 2 гадзін ночы рэзка ўпалі даходы сельскіх клубаў, у раёне ўзнік дэфіцыт культработнікаў на вёсцы.

**Паставы.** Двух лепшых маладых выхаванцаў ФК "ПМЦ" (U-17) запрасіў на прагляд адзін з грандаў расійскага футбола, знакаміты маскоўскі суперклуб "Спартак".

**Расоны.** Каля вёскі Вароніна міліцыя сумесна з пагранічнікамі затрымала 27-гадовага беспрацоўнага з Полацка, які перавозіў без дакументаў 1,8 тоны кантрабанднага лому.

**Віцебск.** Польскі спявак Мечыслаў Шчэсьняк адмовіўся ад удзелу ў конкурсе "Славянскі базар" у знак пратэсту супраць суда над журналістам "Газеты Выборчай" А. Пачобутам.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Толькі да 1 жніўня мапеды ў ДАІ можна будзе зарэгістраваць у спрошчаным парадку



■ Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН

**Да 1 жніўня дзейнічае ўстаноўлены пастановай урада Беларусі спрошчаны парадак рэгістрацыі мапедаў, нагадвае ўпраўленне Дзяржаўтаінспекцыі МУС.** Ён дазваляе паставіць на ўлік любы мапед, які мае ідэнтыфікацыйны нумар, пры поўнай адсутнасці дакументаў на яго. У такіх выпадках (пры адсутнасці праваўстаноўчых дакументаў і (або) дакументаў, выдадзеных мытнымі органамі) уводзяцца абмежаванні, якія забараняюць зняцце мапеда з уліку на працягу трох гадоў, у мэтах выключэння перадумоў учынення крадзяжоў (угонаў). Пры наяўнасці мытных дакументаў на мапед, якія пацвярджаюць увоз транспартнага сродка на тэрыторыю Беларусі, абмежаванні на зняцце мапедаў з уліку накладвацца не будуць.

Пры гэтым у ДАІ папярэджваюць, што самаробкі на ўлік не ставяцца. Кожны транспартны сродак будзе агледжаны. Супрацоўнікі міліцыі праверацць наяўнасць нумара завода-вытворцы і заводскай мадэльнай таблічкі (налепкі), гэта значыць, ідэнтыфікуюць транспартны сродак.

Жыхарам сельскай мясцовасці дастаткова звярнуцца ў ДАІ па месцы жыхарства, дзе правядуць ідэнтыфікацыю транспартнага сродку і выдадуць акт агляду. Затым з дакументамі трэба звярнуцца ў рэгістрацыйна-экзаменацыйнае аддзяленне ДАІ і паставіць мапед на ўлік. Пры дзяржаўнай рэгістрацыі мапеда або зняцці яго з уліку ДАІ ажыццяўляецца праверка транспартнага сродку на прадмет знаходжання ў вышуку.

Пасля 1 жніўня рэгістрацыя мапедаў будзе рабіцца на агульных падставах пры падачы поўнага пакета дакументаў, вызначанага заканадаўствам.

## Стаўка рэфінансавання: ізноў +2%

**З 13 ліпеня стаўка рэфінансавання павялічваецца з 18 да 20% гадавых. Дадзенае рашэнне прынята праўленнем Нацыянальнага банка 11 ліпеня.**

У праўленні інфармацыі Нацбанка ў чарговы раз падкрэслілі, што "дадзеная мера рэалізавана ў рамках правядзення паслядоўнай адсоткавай палітыкі, накіраванай на паступовае павышэнне агульнага ўзроўню адсоткавых ставак у эканоміцы ў мэтах садзейнічання абмежаванню інфляцыі і стымуляванню ашчадных працэсаў у краіне".

У Нацбанку спадзяюцца, што "планамернае павышэнне адсоткавых ставак будзе спрыяць узмацненню прывабнасці рублёвых унёскаў насельніцтва і арганізацый у банках, умацаванню курса нацыянальнай валюты і тым самым росту даверу да яе з боку ўсіх эканамічных агентаў". "Пры гэтым паступовасць павышэння стаўкі дазваляе ўлічваць інтарэсы пазычальнікаў, ужо меўшых крэдытную запазычанасць перад банкамі", дадалі там.

# Агароджы за кошт дзяржавы

■ **Алесь Гай,**
*г. Глыбокае*

**Прыемна нам, глыбачанам, бачыць, як мяняецца аблічча нашага горада. Прыгажэюць вуліцы, двары, прыводзяць у парадак фасады дамоў. Зараз цяжка паверыць, што наведзены такі парадак каля возера Кагальнае. Чаго толькі каштуе дзіцячая пляцоўка? Люба глядзець. У зімовы час працаваў каток. За ўсё гэта вялікі дзякуй гарадской уладзе.**

Зараз пачалі актыўна ставіць новую агароджу на вуліцах Кірава, Маскоўскай, Леніна. Канечне, патрэбная справа. Вуліца Маскоўская ўязная ў нашым горадзе, па ёй ідзе транспарт на Мінск, Паставы, Рыгу. Прыгажосць вуліц надае прыгажосць і нашаму гораду.

Але я хацеў бы выказаць і сваю думку пра агароджы, якія робяцца за кошт дзяржавы. Аўтар гэтых радкоў апытаў больш за дзясятак жыхароў Глыбокага і ўсе падтрымалі маю думку. Справа ў тым, што некалькі гадоў таму на многіх вуліцах была ўжо ўстаноўлена агароджа за кошт дзяржавы. Напэўна, усе бачаць, у якім стане яна зараз. Аблезлая фарба, слупы, якія нахіліліся, зламаныя штакеціны. І вось праз некалькі гадоў гарадская ўлада ўкладвае грошы ў пустую справу. Па той жа Маскоўскай ці Леніна бачыш дабротны дом, у двары стаіць мікрааўтобус і не адзін, побач легкавы аўтамабіль, няўжо ў гаспадара няма сваіх сродкаў пабудаваць самаму агароджу, прыгожую і цікавую. Бо калі гаспадар свайго дома сам не закапае слуп, не прыб'е штакеціну, сам не пафарбуе, усё астатняе яму да лямпачкі. Не будзе берагчы ён гэтую агароджу, калі яму гэта зробіць гарадская ўлада. Мабыць, пара звярнуцца да часоў Савецкай улады, калі былі вулічкамы. І пара ўжо абавязаць кожнага гаспадара падтрымліваць свой дом і сваю агароджу ў належным парадку. Канечне, пажылым людзям можна дапамагчы пабудаваць агароджу.

Няўжо такія бедныя нашы глыбачане, што за свой кошт нельга пабудаваць агароджу каля свайго дома.

Аўтар гэтых радкоў патрацціў некалькі дзён, прайшоў практычна па ўсіх вуліцах нашага горада. Ёсць дзясяткі дамоў, дзе стаіш і захапляешся прыгажосцю агароджы, прыгажосцю двара. Вось прыклад. Вуліца Кірава дом №123, сам гаспадар зрабіў агароджу. Вуліца Гагарына дом №18. Агароджа – адно здзіўленне. Як кажуць, яе можна за аснову браць усім гаспадарам прыватных дамоў горада. Люба глядзець дом №69 па вуліцы Леніна. І агароджа, і дом – усё ў парадку, бо ў доме жыве гаспадар, які не чакае, што за яго зробіць усё ўлада. А вось другі малюнак на вуліцы Леніна. Паламалася брамка і перакасілася агароджа. Чакае гаспадар гэтага дома – дзяржава ўсё зробіць. Хацелася б, каб гарадская ўлада звярнула ўвагу на гэта. На маю думку, не ўпрыгожвае стандартная агароджа ні вуліцу, ні горад.

Хацеў звярнуць увагу на дзяржаўныя дамы. Узяць вуліцу Міра, Маладзёжную, у некалькіх дамах пад вокнамі трава і пустазелле выраслі да самых акон першага паверха. Гаспадары гэтых кватэр чакаюць, што гарадская ўлада скосіць траву, разаб'е клумбу, пасадзіць кветкі. Не лепшы стан і ў асобных дамоў у раёне МКК. Прывяду адзін прыклад (хай прабачыць мяне мой знаёмы). Маладая сям'я пражывае ў прыватным доме. У двары 2 мікрааўтобусы, легкавы аўтамабіль. Практычна няма ніякай агароджы вакол дома, няма кветак, адно запусценне. Пытаюся: "Чаму так?". Адказ: "А калі нам займацца парадкам? З жонкай таргуем. Патрэбна злётаць у Маскву, на Украіну, у Ждановічы за таварам, а затым усё прадаць. Спадзяюся, што і да нашай вуліцы дабяруцца, дзяржава багатая, усё зробіць". Вось такі быў адказ маладога гаспадара. Здзіўляе тое, што большасць глыбачан так думаюць.



Можа, патрэбна нам, глыбачанам, часцей бываць у Паставах, паглядзець, як там прыватны сектар глядзіць за дамамі.

Глядзіш, у любы дзень у цэнтры нашага горада няма дзе прыпаркаваць аўтамабіль. Думаеш, няўжо такія бедныя глыбачане, што так прывыклі жыць за кошт дзяржавы. Каб наш горад прыгажэў, каб прыгажэлі нашы вуліцы і двары, самім нешта трэба рабіць.

# Беларусь плануе пашырыць сетку сваіх культурных цэнтраў за мяжой

Асноўныя кірункі супрацоўніцтва з суайчыннікамі, якія знаходзяцца за мяжой, назваў 9 ліпеня ў Віцебску на пасяджэнні Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа пры Мінкульце Беларусі міністр культуры Павел Латушка.

Як паведамілі ў Мінкульце, плануецца больш актыўнае прадстаўленне беларускай культуры за мяжой, пашырэнне сеткі культурных цэнтраў (прызначана адкрыццё чатырох такіх цэнтраў у Расіі, Літве, Германіі і ва Украіне), фінансавая падтрымка сумесных праектаў, распрацоўка ўрадавай праграмы «Беларусы ў свеце», вяртанне ў Беларусь культурных каштоўнасцяў.

Падчас пасяджэння Кансультатыўнага савета абмяркоўваліся пытанні дзейнасці беларускіх аб'яднанняў за мяжой, захавання гісторыка-культурнай спадчыны, магчымасці навучання суайчыннікаў у беларускіх ВНУ, вяртання беларускага грамадзянства беларусам замежжа.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# З 1 ліпеня 2012 года юрасобы і ІП у Беларусі павінны будуць гандляваць з прымяненнем электронных апаратаў

**З 1 ліпеня 2012 года юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі ў Беларусі павінны будуць гандляваць з прымяненнем электронных апаратаў. Гэта прадугледжана сумеснай пастановай Савета міністраў і Нацыянальнага банка Беларусі ад 6 ліпеня.**

Як паведамляе прэс-служба ўрада, пастановай зацверджана палажэнне аб парадку выкарыстання касавага абсталявання, плацежных тэрміналаў, аўтаматычных электронных апаратаў, гандлёвых аўтаматаў і прыёму наяўных грашовых сродкаў, банкаўскіх пластыкавых картак у якасці сродку ажыццяўлення разлікаў на тэрыторыі Беларусі пры продажы тавараў, выкананні работ, аказанні паслуг, ажыццяўленні дзейнасці ў сферы ігральнага бізнесу, латарэйнай дзейнасці, правядзенні электронных інтэрактыўных гульняў.

Зацверджаны таксама пералік аб'ектаў, што падлягаюць аснашчэнню плацежнымі тэрміналамі для рэгістрацыі аперацый, якія праводзяцца з выкарыстаннем банкаўскіх пластыкавых картак. Гэта гандлёвыя аб'екты (магазіны, павільёны з гандлёвай залай, магазіны-склады), аб'екты грамадскага харчавання (рэстараны, кафэ, бары, сталоўкі вытворчых арганізацый і ўстаноў вышэйшай адукацыі), бытавога абслугоўвання насельніцтва. Сюды таксама адносяцца аўтамабільныя стаянкі, аўтазаправачныя станцыі, касы пасажырскіх тэрміналаў, аэрапортаў, чыгуначных вакзалаў, пункты збірання дарожных збораў, пункты падключэння абанентаў сотавай рухомай электрасувязі. Плацежнымі тэрміналамі павінны быць абсталяваны таксама аб'екты паштовай сувязі і электрасувязі, аптэкі, гатэлі, ігральныя ўстановы, касы (касавыя кабіны) арганізацый, што аказваюць платныя медыцынскія, рыэлтарскія і турыстычныя паслугі.

Міністэрству па падатках і зборах даручана да 1 ліпеня 2012 года вызначыць парадак устаноўкі, абслугоўвання, зняцця сродку кантролю падатковых органаў, а таксама парадак ажыццяўлення функцый цэнтра апрацоўкі даных.

*Марына Носава, БелаПАН.*

*Запрашаем на свята*

# «Фэст на Дзядку»!

**17 ліпеня 2011 года. Пачатак у 13-00 гадзін**

У праграме:

1. Зямля бацькоў – зямля святая.
2. Лепшыя падвор'і.
3. Канцэрт.
4. Аўкцыён.
5. Канкур (таталізатар).
6. Спартыўныя спаборніцтвы.
7. Выстава-продаж вырабаў народных умельцаў.
8. Фотавыстава.

Месца правядзення:
7-ы км дарогай «Пятроўшчына - Капылыпчына»



**Вера ў існаванне Бога павінна лічыцца хутчэй прадуктам нашых пачуццяў, чым развагі. Гэта нейкае інстыктыўнае перакананне, якое не могуць пахіснуць ніякія супярэчлівыя высновы розуму. Пры гэтым не лішне заўважыць, што і сам розум у велізарнай большасці выпадкаў схілены хутчэй стаяць за гэта вераванне, чым супраць яго.**

*Францыск Рудольф Вейс*

# Святыя месцы г. Дзісны

■ **Фадзей Шымуковіч,**
*педагог-пенсіянер,*
*г. Дзісна.*

У 1202 г. полацкі князь Барыс Данілавіч дорыць правабярэжжа ракі Дзісна з маёнткам Лонка полацкім уладарам. У 1218 г. уладальнікам становіцца епіскам Уладзімір, у 1231 г. згадваецца Аляксей, у 1274 г. – Сімон, у 40-х гадах XIVст. Рыгор, у 1390 – Андрыян, 1392 – Фядосій. Епіскапы Дзісной не валодалі, у іх валоданні быў паўвостраў, на якім знаходзіўся Капец-гарадок, дзе пасля будзе закладзены замак. Такім чынам, частка будучай гарадской тэрыторыі знаходзілася ў валоданні епіскапаў.

З пачатку XIII стагоддзя, згодна падання, тут знаходзілася і функцыянавала ўжо тады Васкрасенская царква, што цалкам апраўдана, бо ў валоданнях епіскапаў будаваліся і функцыянавалі цэрквы, і не дзе-небудзь, а ў досыць буйных, па мерках таго часу, населеных пунктах. Ёсць меркаванне І.І.Бяляева, што ў Дзісне мог быць і манастыр. «Калі яны (манастыры) ёсць у паганскай Жамойціі , то чаму б ім не быць у спрадвечна праваслаўных гарадах?» Больш таго, у манахаў было б паслухмянства па апрацоўцы ўгоддзяў біскупаў. Але гэта толькі здагадка, пэўных звестак няма.

У 1632 г. кароль Уладзіслаў IV вярнуў праваслаўным некалькі цэркваў, сілком занятых уніятамі. 17 сакавіка 1633 г. кароль паслаў у Дзісну двараніна Расіцкага адабраць ад уніятаў Васкрасенскую царкву. Уніяцкі мітрапаліт Антоній Сялява, пераемнік Кунцэвіча, рабіў усё, каб адняць гэту царкву ў праваслаўных. 11 верасня 1642 г. кароль накіраваў Сяляве пасланне, дзе забараняў прыгнёт праваслаўя і загадваў не рабіць забароны маліцца ў Васкрасенскай царкве. Справа ў тым, што з пачатку XVII ст. пачынаецца ў Дзісне, як і ва ўсім Заходнім краі, жорсткая барацьба праваслаўных з новаўтворанай рэлігійнай плынню – уніяй, так званага саюза каталікоў і праваслаўных пад пратэктаратам Папы Рымскага. Уніяцкія святары гвалтам праз унію імкнуліся спалячыць беларусаў. Дзісненцы адстойвалі веру сваіх бацькоў, і вялікая частка іх назаўжды засталася праваслаўнай. Хоць шматлікія вёскі (Фралова, Бярозава і іншыя), якія былі прыгоннымі каталіцкай пані з Дарожкавічаў Каставіцкай, змушаны былі вызнаваць уніяцтва. У Дзісне і дагэтуль побач з каталіцкімі могілкамі ёсць уніяцкія, на якіх і цяпер хаваюць жыхароў гэтых вёсак, хоць тыя амаль 200 гадоў вызнаюць праваслаўе.

27 красавіка 1643г. кароль ізноў загадвае ўніяцкаму мітрапаліту не замінаць праваслаўным вернікам адпраўляць малітву ў Васкрасенскім храме. 12 студзеня 1650 г. кароль Ян-Казімір пацвердзіў гэта права праваслаўных. Калі Дзісну ў 1656 годзе занялі войскі рускага цара Аляксея Міхайлавіча, уніяцкія цэрквы былі знішчаны і разрабаваны, аднятыя праваслаўныя цэрквы перададзены іх законным уладальнікам, мяшчане прынялі праваслаўе.

У 1661г. Дзісна зноў апынулася пад Польшчай. 15 ліпеня 1661г. кароль Ян-Казімір граматай пацвердзіў права праваслаўных на Васкрасенскую царкву і прызнаў іх права на зноў пабудаваную Спаскую царкву і тыя цэрквы, якія яны могуць пабудаваць пасля. 30 студзеня 1679г. пераемнік Яна-Казіміра, кароль Ян, пацвердзіў граматай ад 16 жніўня 1690г. гэта права. Што зрабілі і яго пераемнікі Аўгуст II, Аўгуст III і Станіслаў Аўгуст.

Пры царкве Уваскрэсенне Хрыстова з 1633 г. дзейнічаў манастыр. Манахі здаўна ездзілі для здзяйснення малітвы ў Рыгу. У 1686г. Сільвестр Валчанскі, наместнік і адміністратар Епіскапіі беларускай, прызнаў гэта права толькі за Віцебскім Маркавым і Полацкім Багаяўленскім манастырамі, і дзісненскім манахам бываць «в преславутом месте Ризском».

Падчас страшнага пажару 15 ліпеня 1700г. згарэла Васкрасенская царква. Манастыр цудам ацалеў, ацалела і трапезная Увядзенская царква. У 1718г. манахі дзісненскага манастыра ў ліку іншых падалі імператару Пятру I скаргу на гвалт з боку каталікоў і ўніятаў. Дзякуючы заступніцтву імператара, кароль Аўгуст II 28 лістапада 1720г. выдаў дыплом у абарону праваслаўных манастыроў Заходняга краю, у т.л. і дзісненскага. Але каралеўскія ўказы мала значылі, і свавольная шляхта рабіла што хацела. У 1726г. архіепіскап праваслаўны Сільвестр Чарцвянцінскі даў грамату на пабудову новай Васкрасенскай царквы. Але калі манахі ў 1728г. «своим коштом церквь Воскресения Христа хотели в монастыре построить и лесу премного на селе приготовили, тогда наместник с хоронгвою, там стоящею, пришедший со своими людьми и старцев всех разогнал и церкви строить не допустил».



**Скульптура на могілках ля царквы Маці Божай Адзігітрыі.**

Неўзабаве, аднак, Васкрасенская царква была пабудавана. Будаўнікамі былі дзісненскія мяшчане Цімафей і Ганна Барадульскія. Новы храм знаходзіўся на тым жа месцы, дзе стаяў і стары, згарэлы.

Акрамя храма Уваскрэсення Хрыстова, была Спаская царква. Яна знаходзілася паміж вуліцамі Аляксандраўскай і Прабойнай, цяперашнімі Першамайскай і імя Кірава.

Аб Увядзенскай трапезнай манастырскай царкве гаворыцца ў грамаце Віктара Садоўскага, епіскапа Пераяслаўскага і Барыспальскага ад 23 сакавіка 1786г.. У 1826г. яна ўжо струхлела і была перанесена (натуральна, капітальна адрамантаваная) на могілкі і там узведзена ў імя вялікапакутніка Георгія.

Успенская могілкавая царква пабудавана ў палове XVIII стагоддзя. Яна стаяла за астрогам каля дзісненскага парома каля былой Казармавай вуліцы. Згарэла ў 1912г. Ад яе не засталося і следу.

У сувязі з далучэннем Беларусі да Расіі, у 1793г. праваслаўнае брацтва было забаронена, хоць яно і вяло барацьбу з каталіцызмам і ўніяцтвам за праваслаўе. Яго срэбны крыж, зроблены знакамітым ювелірам Пятром Слізакам, таямніча знік. Брэсцкая унія ў 1839г. была ліквідавана, уніяцтва забаронена. Уніяцкая дзісненская царква згарэла падчас пажару.

Культавыя будынкі шмат у чым вызначалі архітэктурнае аблічча горада, бо менавіта яны валодалі ўсімі добрымі якасцямі архітэктурных помнікаў – гэта непадабенства на іншыя збудаванні. З дзісненскіх храмаў найбольш характэрны храм Уваскрэсення Хрыстова. Яго недахоп – пабудаваны быў з дрэва і знішчаны пажарам. Існы цяпер каменны храм Уваскрэсення Хрыстова, пабудаваны і асвячоны 12 траўня 1870г., пабудаваны на сродкі, асігнаваныя М.І.Мураўёвым на суму 25 693 руб. 79 3\4 кап. царскіх рублёў, падчас вайны атрымаў пашкоджанні. Пасля апошняй вайны выкарыстоўваўся як склад рознай маёмасці і прадукцыі райпрамкамбіната. У канцы 80-х - пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя аднаўлены высілкамі святара Генадзя Каранеўскага і вернікаў. З гэтага часу, у сувязі з кананізацыяй айца вялікапакутніка Канстанціна Жданава, ішоў вялікі капітальны рамонт.

У памяць збавення Гасудара Імператара Расійскага Аляксандра II ад небяспекі 4 красавіка 1866г. узведзена капліца на беразе р. Заходняя Дзвіна. На правай сцяне ад уваходу знадворку надпіс: «Господи, спаси царя и услыши ны», на левай: «В память событий 4 апреля 1866г. не прикасайся к мазанику моему. Владеет Вышний царством человеческим. Он поставляет цари и приставляет». У капліцы абраз св. вернага князя Аляксандра Неўскага. Перад ёй аналой і лампада. Хрэсны ход да капліцы здзяйсняўся штогод 4 красавіка. Падчас вайны капліца была напаўразбурана, а потым цалкам знішчана.

Калі старанна прасачыць гісторыю ўзвядзення культавых будынкаў, то чырвонай ніткай праходзіць ідэя: цэрквы і касцёлы будаваліся ў самых прыгожых, людных і даступных месцах. Дзяржава і народ не шкадавалі сродкаў. У Дзісне заўсёды ўзнікалі праблемы з могілкавай царквой. Драўляныя, перанесеныя з іншых месцаў, хутка прыходзілі ў заняпад, мелі выгляд не той, які павінен мець святы храм. У 1908г. з казны было вылучана 6374 руб. 46 кап. на будаўніцтва могілкавай царквы ў Дзісне. У гэты ж час у Дзісне будавалася бальніца на 100 ложкаў. Частку цэглы прараб забракаваў. Прыход па недарагім кошце выкупіў гэтую цэглу і пусціў на будаўніцтва царквы. Царква адстаяла ўжо 100 гадоў і адстаіць у 5-6 раз больш пры спраўным даху. Пасля вайны да яе зрабілі прыбудову з сілікатнай цэглы, і ў такім стане яна забяспечвала патрабаванні вернікаў Дзісны і навакольных вёсак да аднаўлення Васкрасенскай царквы.

Свята-Адзігітрыеўская могілкавая царква г. Дзісны славутая тым, што не адну сотню гадоў у ёй знаходзіўся абраз Божай Маці Смаленскай, у гонар якой штогод у Дзісне праводзіцца фэст і ажыццяўляецца хрэсны ход з цудатворным абразом. Сам абраз з'яўляецца мастацкай каштоўнасцю і знаходзіцца ў рэестры мастацкіх каштоўнасцяў Беларусі. Паводле легенды, яна прыплыла ў Дзісну па Дзвіне. А калі дакладней, то ў часы нападу Івана Грознага на Полацк полацкія баяры ўцякалі ад рускіх у Дзісну і прывезлі з сабой абраз, які там і застаўся.

Гісторыя гэтай рэліквіі заслугоўвае асаблівай увагі. Згодна падання, творцам гэтага абраза быў сам апостал і евангеліст Лука. У Грэцыі яна ўславілася мноствам цудаў. У Расію выява патрапіла ў 1046г., калі грэцкі імператар, выдаючы сваю дачку, царэўну Ганну, за чарнігаўскага князя Усевалада Яраславіча, блаславіў яе гэтым абразом у шлях. Менавіта таму Смаленскі абраз завуць Адзігітрыяй, што азначае пуцяводная.

Пасля смерці князя Усевалада яго сын Уладзімір Манамах перанёс абраз з Чарнігава ў Смаленск – так яна атрымала сваю назву Смаленская. Абраз уславіўся падчас нашэсця Батыя.

Каля 1400г. абраз быў перанесены ў Маскву, і праз паўстагоддзя ў сталіцу прыбыў смаленскі біскуп Міхаіл з просьбай адпусціць святы абраз у Смаленск. Як ні шкада было вялікаму князю Васілю II Цёмнаму аддаваць абраз, ён вырашыў выканаць просьбу Міхаіла, толькі спіс (копію) святога абраза князь пакінуў у Маскве.

***Працяг будзе.***



**г. Дзісна . Царква Уваскрэсення Хрыстова.**



**Царква Маці Божай Адзігітрыі ў Дзісне**

# Ракі буйныя, але па 52 тыс.500 рублёў

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*



Беларусь не абдзелена воднымі рэсурсамі, асабліва Віцебская вобласць, не выключэнне Глыбоцкі і Пастаўскі раёны. На тэрыторыі раёна размешчана больш за 100 азёр і вадаёмаў, шматлікія з іх размешчаны ў найпрыгажэйшых месцах. З кожным годам усё больш аматараў рыбалкі можна сустрэць на нашых вадаёмах, гэта гаворыць пра тое, што ёсць шмат рознай рыбы, можна добра правесці час. Ахове вадаёмаў ад браканьераў супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету ўдзяляецца значная ўвага, з дапамогай добраахвотных памочнікаў, простых грамадзян, міжраённай інспекцыяй штотыдзень спыняюцца спробы незаконнай здабычы рыбы.

Так, 24 чэрвеня 2011 года каля 23 гадзін супрацоўнікамі міжрайінспекцыі на рацэ Заражанка Пастаўскага раёна за незаконную лоўлю рыбы сеткамі затрыманы жыхар г.п. Варапаева Пастаўскага раёна грамадзянін Ч., зараз парушальніка чакае суровае пакаранне.

6 ліпеня 2011 года каля 22 гадзін вечара пры правядзенні рэйдавых мерапрыемстваў супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету сумесна з работнікамі Пастаўскага РОС РГГА «БТПР» на штучным вадасховішчы паблізу в. Палессе Пастаўскага раёна затрыманы двое мясцовых жыхароў, якія пры дапамозе бродніка ажыццяўлялі здабычу рака вузкапалага, лоўля якога ў дадзены час забаронена. Шкода, прычыненая прыродзе, склала больш за 4 млн. рублёў, прававую адзнаку дзеянням «гора-браканьераў» дадуць праваахоўныя органы.

8 ліпеня 2011 года каля 20 гадзін паблізу возера Крыўское Пастаўскага раёна з забароненымі прыладамі рыбалоўства, броднікам затрыманы жыхар Глыбоцкага раёна, які чакаў свайго таварыша, каб сумесна палавіць броднікам рыбу, але яго чаканне перапынілі работнікі міжрайінспекцыі.

10 ліпеня 2011 гада каля 22 гадзін супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на возеры Мушкат паблізу г. Глыбокае затрыманы жыхар г. Глыбокае грамадзянін Ш., які ажыццяўляў здабычу рыбы сеткамі, але сам трапіў у сеткі правасуддзя, зараз будзе адказваць па адміністрацыйным кодэксе, штраф да 50 базавых велічынь.

16 чэрвеня 2011 года набыў моц прысуд Пастаўскага раённага суда ў адносінах да грамадзяніна Ражко Мікалая Уладзіміравіча, які 14 красавіка 2011 года затрыманы работнікамі міжрайінспекцыі за незаконную лоўлю рыбы мярожамі, прычынена шкода прыродзе ў памеры 4 млн.368 000 рублёў. Ражко Н.В. прысуджаны да 1 года пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду. Сапраўды, рыбка залатая.

Толькі за тры месяцы бягучага года работнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на тэрыторыі Пастаўскага раёна затрымана 30 парушальнікаў природаахоўнага заканадаўства, канфіскавана больш за 1 км браканьерскіх сетак, 7 броднікаў, мярожаў, 139 кг незаконна здабытай рыбы. Прыведзены прыклад гаворыць пра значныя рыбныя запасы вадаёмаў, але з такім варварскім стаўленнем да прыроды мы хутка і жабу не зможам вылавіць у возеры.

Гэта толькі невялікая колькасць прыкладаў затрымання правапарушальнікаў. Уцешна, што з кожным днём усё радзей і радзей на нашых вадаёмах сустракаюцца браканьеры, а людзі з разуменнем ставяцца да праблем захавання рыбных рэсурсаў, неацэнную дапамогу інспекцыі ў барацьбе з браканьерамі аказваюць простыя рыбаловы-аматары, вялікі ім дзякуй.

Немагчыма не закрануць тэму чысціні берагоў нашых вадаёмаў. Шматлікія берагі азёр завалены смеццем пасля розных пікнікоў, гуляў і толькі пакараннем гэту праблему не вырашыць, без разумення праблемы чысціні азёр і дапамогі грамадзян у гэтым пытанні мы не зможам захаваць унікальную прыгажосць нашых вадаёмаў. Тэлефоны «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету: 8-02156-28670, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# У Віцебскай вобласці не зніжаецца колькасць загінуўшых ад знешніх прычын

У Віцебскай вобласці прымаюцца меры, скіраваныя на папярэджанне гібелі людзей у выніку пажараў, парушэння правілаў тэхнікі бяспекі, аўтадарожных здарэнняў, утапленняў, атручэнняў алкагольнымі напоямі і інш. Аднак колькасць загінуўшых ад знешніх прычын практычна не зніжаецца. Пра гэта гаворыцца ў справаздачы абласной каардынацыйнай нарады па барацьбе са злачыннасцю і карупцыяй, што прайшла нядаўна. Інфармацыя размешчана на сайце Генеральнай пракуратуры Беларусі.

Згодна са звесткамі ўпраўлення статыстыкі Віцебскай вобласці, у 2010 годзе зарэгістравана 20.463 памерлых ад розных прычын, пры гэтым 2.236 чалавек (9,1%) памерлі ад знешніх прычын насільнага характару. Найбольшая колькасць грамадзян загінула ў выніку пажараў, вытворчых траўмаў, парушэння правілаў дарожнага руху, утапленняў, самазабойстваў, атручэнняў алкагольнымі напоямі.

Штогод у вобласці адбываецца каля 1.500 пажараў, у якіх гінуць больш як 200 грамадзян. Сёлета ў выніку пажараў памёр 121 чалавек. У пракуратуры мяркуюць, што ў многім такое становішча абумоўлена недастатковым узроўнем арганізацыі прафілактычнай працы як з боку органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду, так і мясцовых выканаўчых органаў. У прыватнасці, у вобласці адзначаецца праблемная сітуацыя з забяспечанасцю адзінокіх грамадзян аўтаматычнымі пажарнымі апавяшчальнікамі (з патрабуемых 17.638 устаноўлена толькі 10.148 — 57,5%).

Летась на тэрыторыі вобласці на вытворчасці загінула 25 і цяжка траўмаваны 89 работнікаў; за чатыры месяцы гэтага года — 10 і 36. Аналіз няшчасных выпадкаў сведчыць аб ігнараванні асобнымі наймальнікамі і іншымі службовымі асобамі патрабаванняў нарматыўных актаў аб нейтралізацыі тэхнагенных і асобасных фактараў, у сувязі з чым вытворчыя працэсы ажыццяўляюцца пры высокай ступені рызыкі ўзнікнення няшчасных выпадкаў.

За апошнія пяць гадоў на тэрыторыі вобласці патанулі 953 чалавекі, у тым ліку 49 дзяцей. У 2010 годзе на вадаёмах цярпелі бедства 339 чалавек, з іх 37 — непаўналетнія. Загінулі 224 чалавекі, сярод іх 14 — непаўналетнія. Гэта на 76 чалавек больш, чым у 2009 годзе. У студзені—красавіку 2011 года ў вобласці патанулі 11 грамадзян.

«У цэлым аналіз прычын гібелі людзей на тэрыторыі вобласці сведчыць, што задачы прафілактыкі надзвычайных здарэнняў, траўматызу і гібелі людзей, якія стаяць перад дзяржаўнымі інстытутамі, дагэтуль у поўным аб'ёме не вырашаны», — гаворыцца ў паведамленні на сайце Генпракуратуры.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# Пра магчымасць датэрміновай рэгістрацыі пашпартоў гатоўнасці

■ А. Ю. Рацьковіч,
*інспектар Глыбоцкага міжраённага аддзялення філіяла «Энерганагляд».*

З 2003 года, з уводзінамі ў дзеянне «Правіл падрыхтоўкі і правядзення асенне-зімовага перыяду энергаснабжаючымі арганізацыямі і спажыўцамі цеплавой энергіі ў Рэспубліцы Беларусь», зацверджанымі Пастановай №25/20 ад 30 чэрвеня 2003 года, вызначаны парадак падрыхтоўкі цеплаўстановак і цеплавых сетак да ацяпляльнага сезону з наступным афармленнем актаў гатоўнасці і рэгістрацыяй пашпартоў гатоўнасці да работы ў АЗП.

На сённяшні дзень усім кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый г.Глыбокае і Глыбоцкага раёна Энерганаглядам даведзены графікі працы камісій і афармленні пашпартоў гатоўнасці да хуткага ацяпляльнага сезону. Гэтым графікам вызначана пэўная дата прад'яўлення энергаўстановак для агляду камісіяй па праверцы гатоўнасці да АЗП для кожнага суб'екта гаспадарання.

**Але пры ўмове выканання** усіх прафілактычных і рамонтных падрыхтоўчых работ у цепла - і - электраўстаноўках, указаных у вышэйзгаданых Правілах, неабходных для забеспячэння надзейнага і якаснага функцыянавання энергаабсталявання ў ацяпляльны перыяд - **загадзя, да наступлення даты работы камісіі, указанай у графіку** - Пашпарт гатоўнасці можа быць зарэгістраваны __**датэрмінова.**__

Датэрміновая рэгістрацыя Пашпартоў гатоўнасці да ацяпляльнага сезону (як спажыўцоў, так і цеплакрыніц) праводзіцца з канца траўня, увесь чэрвень і ліпень, да **1 жніўня** бягучага года ( бо з 1 жніўня пачынаюцца работы камісій па Графіку). Ужо 25 траўня быў зарэгістраваны першы пашпарт гатоўнасці – УЗ «Віцебская база захоўвання медыцынскай тэхнікі і маёмасці» медсклад у г. п. Падсвілле.

Для датэрміновай рэгістрацыі спажыўцам цеплавой энергіі неабходна даслаць у аддзяленне Энерганагляду ліст на выклік інспектара з указаннем дакладнай даты праверкі. Нагадваем, што ў склад камісіі па праверцы гатоўнасці да працы ў ацяпляльны перыяд, у адпаведнасці з Правіламі, у абавязковым парадку павінны быць уключаны:

- кіраўнік правяраемай арганізацыі;
- прадстаўнік энергаснабжаючай арганізацыі;
- прадстаўнік Дзяржпрамнагляду (раней так званы Праматамнагляд, калі на прадпрыемстве маецца абсталяванне, падкантрольнае Дзяржпрамнагляду).

На ўсе пытанні Вам адкажуць у Энерганаглядзе па тэл.: **2-87-04**






*Таццяну Зіфрыдаўну Будзіч*

**Віншуем з днём нараджэння!**

Пусть минуют тебя все несчастья,
Горит сердце щедрым огнем,
Мы желаем тебе столько счастья,
Сколько солнца летним днем.
И пожелать еще осталось
Людского вечного тепла,
Чтоб все, что хочется, сбывалось,
И жизнь прекрасною была.



***Шчасныя***

*Ілью Пілімона*

**Віншуем з 5-годдзем!**

Пусть подарит тебе день рождения
От удачи и счастья ключи,
Замечательное настроение
И улыбки, как солнца лучи.
Пусть сегодня хорошее сбудется,
Станет жизнь весела и прекрасна,
И пускай этот день не забудется,
А останется в памяти сказкой!



***К. Бахір, У. Скрабатун***

*Сінькевіча Вацлава Вікенцьевіча*

**Сардэчна віншуем з днём нараджэння.**

Тебе сегодня в светлый праздник
Хотим мы счастья пожелать,
Удачи, радости, успеха,
Здоровым быть, беды не знать,
Преграды в жизни и помехи
Легко и быстро устранять,
Побольше смеха, меньше грусти
И никогда не унывать!



***Ад сына Сяргея і яго сям'і (в. Чачукі)***

